# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 42 СЬНЕЖАНЬ — 1974 — DECEMBER ГОД. 20**


## З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ

**І З НОВЫМ ГОДАМ ШЧЫРА ВІТАЕМ**
**УСЯЧЭСНЫХ УЛАДЫКАЎ НАШЫХ**
**МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ**
**АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ**

Дастойнае Сьвятарства і ўсіх вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і ўвесь Беларускі Народ.

**Рада БАПЦарквы**

## АРХІПАСТЫРСКАЕ КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА

**„Сын Чалавечы прыйшоў выбавіць загінутае"** (Мацьв. 18, 11)

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!**

Калядная Ноч! Хто з запраўдных хрысьціянаў не памятае Яе ад дзяцінства? Хто не чакае, не захоўвае Яе ў сваім сэрцы?

Збавіцель наш прыйшоў на зямлю, каб аб'яднаць усё людзтва навакол Сябе! Аб'яднаць ня сілаю аружжа, а Сваёю Праўдаю, Ласкаю, Міласэрдзем і Любоўю. Таму кажная душа цешыцца й радуецца ў гэты дзень, бо адчувае, што прыйшоў Той, Хто ўстановіць Мір, Праўду й Дабро на зямлі.

Зьвернем толькі душы нашыя да Бэтлеэму. Там Зорка зьзяе! Там навокал Сьвятло зь Неба! А Сьвятло-ж нябеснае — гэта радасьць для душаў нашых. „Гэтак няхай сьвятло вашае сьвеціць прад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя дзеяньні і ўславілі Айца Вашага, Хто ў нябёсах" (Мацьв. 5, 16). І ад часу Нараджэнь-

ня Хрыста гэтае Сьвятло сваімі праменьнямі зьзяе ў Сьветлую ноч па хатах нашых як сьвечка, ці як ялінка; а частачка таго Сьвятла Нябеснага прасьвятляе цемру жыцьця нашага, радуе, вяселіць душы нашыя. У Сьвяты Вечар абліччы нашыя прасьвятляюцца, пра беды свае мы забываемся, усім, навет сваім непрыяцелям, выбачаем, усіх любім і супакоем напаўняем сэрцы нашыя, ды гэтым самым выклікаем надзею на сталы супакой на зямлі.

Таму ня дзіва, што ўсе людзі добрае волі становяцца на калені прад народжаным Дзіцяткам! Таму й ня дзіва, што ў гэты дзень Неба й зямля радуюцца й весяляцца, і разам з Ангеламі натхнёна людзі сьпяваюць: Слава ў вышынях Богу, і на зямлі мір, між людзей дабраволеньне!

Таму й мы сэрцам сваім сяньня злучаймася з сіламі Нябеснымі. Слаўма Бога. „Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае” (Ян. 3, 16).

Не забываймася, што перад намі стаяць вялікія й паважныя заданьні й адказнасьць як прад Богам, так і прад сваім народам, якому на Роднай Зямлі адабралі ўсякую рэлігійную й нацыянальную свабоду, а цяпер яшчэ пагражаюць пазбаўленьнем нацыянальнай своеасаблівасьці.

І калі нашая вера ў нованароджанага Хрыста будзе цьвёрдаю, як скала, тады Ён усьцешыць нас, дасьць усім нам сілу Духа Свайго Сьвятога. І прад гэтаю сілаю рассыплецца ўся бязбожная ўлада на зямлі; і нашая любая Маці-Беларусь народзіцца да новага, вольнага й шчасьлівага жыцьця.

Дарагія Браты й Сёстры! Будзем маліць Яго, Бога й Спаса нашага, каб Новы Год прынёс нам супакой, радасьць, шчасьце й свабоду. А ўсё гэта будзе з намі тады, калі з намі будзе Нованароджаны на зямлі Хрыстос Бог. І будзе Ён з намі, калі ў душах сваіх злучымся з Ім, асабліва ў гэты слаўны Сьвяты Вечар Нараджэньня Яго, калі мы ўсе будзем радасна вітаць Яго, пяяць хвалу Яму.

Хрыстос нарадзіўся! Радуймася, Браты й Сёстры, бо з намі Бог! Дзякуйма нашаму Нябеснаму Айцу за Ягоную радасьць і любоў да нас. Малемся да Яго, каб гэтая Калядная радасьць напоўніла сэрцы ўсіх людзей, а асабліва нашых Братоў і Сёстраў на Беларусі й па сьвеце разагнаных.

Ласка й Супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й Лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і заўсёды й павек вякоў. Амін.

Лета Божага 1974

**☩ Пакорны ў Богу Мітрапаліт АНДРЭЙ**
**☩ Пакорны ў Богу Архіепіскап МІКАЛАЙ**



## ЭВАНГЕЛЬЛЕ АД МАЦЬВЕЯ — 7

Ня судзеце, каб ня былі суджаныя. Бо якім судом судзіце, такім і вы будзеце суджаныя, і якою мераю мераеце, такою адмераюць і вам.

І што ты ўглядаешся на трэсачку ў воку брата твайго, а бервяна ў воку тваім не адчуваеш? Або, як скажаш брату свайму — дай я выйму трэсачку з вока твайго, — калі бервяно ў воку тваім? Крывадушнік! Выймі перш бервяно з вока твайго, тады пабачыш, як дастаць трэсачку з вока брата твайго.

Не давайце сьвятога сабакам і ня кідайце пэрлаў сваіх перад сьвіньнямі, каб не патапталі іх нагамі сваімі ды, абярнуўшыся, не разарвалі вас.

Прасеце, і будзе вам дадзена; шукайце , і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам. Бо кажны, хто просіць, дастае; і хто шукае, знайходзіць; і хто стукаецца, таму адчыняюць.

Або, хто з вас такі чалавек, у каго сын папрасіў-бы хлеба, а ён даўбы яму камень; ці папрасіў-бы рыбы, а ён даў-бы яму зьмяю?

Калі-ж вы, зласьлівыя, умееце абдорваць дабром дзяцей вашых, тымбалей Айцец ваш Нябесны абдорыць дабром тых, хто просіць у Яго.

Гэтак, — усё, чаго хочаце ад людзей, каб вам рабілі, тое й вы рабеце ім, бо ў гэтым закон і пракрокі.

Увайходзьце праз цесныя вароты; бо шырокія вароты, і прасторны той шлях, што вядуць да загібелі, і многія ўвайходзяць імі; але цесныя вароты, і вузкі той шлях, што вядуць у жыцьцё, і мала такіх, якія знайходзяць іх.

Сьцеражэцеся ілжывых пракрокаў, якія прыйходзяць да вас у авечай скуры, нутро-ж у іх, як ваўкоў драпежных.

Па пладох іхных пазнаеце іх. Ці-ж зьбіраюць з цёрану вінаград, або з асоту вінныя ягады? Гэтак, — усякае добрае дрэва дае добрыя плады, а благое дрэва дае плады дрэнныя. Ня можа добрае дрэва выдаць плён дрэнны, ані благое дрэва выдаць плён добры. Усякае дрэва, якое ня прыносіць добрага плёну, сьсякаюць і кідаюць у агонь. Вось-жа, па пладох іхных пазнаеце іх.

Ня ўсякі, хто кажа Мне — Госпадзе, Госпадзе, — увойдзе у Уладарства Нябеснае, але той, хто спаўняе волю Айца Майго Нябеснага.

Многія скажуць Мне ў дзень той: — Госпадзе, Госпадзе! Ці не Тваім імём злыдухаў выганялі; і ці не Тваім імём шмат цудаў тварылі? — І тады скажу ім: — Я ніколі ня знаў вас; адступецеся ад Мяне, спраўцы беззаконьня.

Вось-жа, кажнага, хто слухае словы Мае гэтыя й выпаўняе іх, прыраўнаю да чалавека мудрага, які пабудаваў дом свой на камені. І пайшоў дождж, і разьліліся рэкі, і ўсхадзіліся вятры, і наляглі на дом той; і ён ня ўпаў, бо закладзены быў на камені.

А ўсякі, хто слухае словы Мае гэтыя й не выпаўняе іх, падобны да чалавека бесталковага, які пабудаваў дом свой на пяску. І пайшоў дождж, і разьліліся рэкі, і ўсхадзіліся вятры, і наляглі на дом той; і ён заваліўся; і вялікай была руіна яго.

І сталася, калі Ісус кончыў словы гэтыя, народ дзіваваўся з Ягонага вучэньня. Бо вучыў іх, як Уладарны, ды ня так, як кніжнікі й фарысеі.

# АДНАЎЛЕНЬНЕ МІТРАПОЛІІ

Пасьля пераходу ў вунію Мітрапаліта Навагрядзкага Міхаіла Рагозы, Епіскапа Полацкага, Епіскапа Турава-Пінскага й Епіскапа Берасьцейскага Беларусы засталіся без праваслаўных Епіскапаў. Пакуль яшчэ жыў Епіскап Львоўскі Гедэон Балабан, праваслаўныя Беларусы ў сваіх духовых патрэбах звярачаліся да гэтага Епіскапа. Пасьля-ж сьмерці Епіскапа Гедэона ў 1607 годзе, львоўскую Епіскопію заняў Ерамія Цісароўскі, якому кароль выдаў грамату з умовaю, што ён далучыцца да вуніі. Цісароўскі да вуніі не далучыўся і быў адзіным Епіскапам для Беларусаў і Украінцаў, а пасьля ягонае сьмерці Епархіяй заўладаў вунійны Епіскап Міхаіл Капысьцінскі.

На вялікае шчасьце для праваслаўных прыехаў у Кіеў Ерусалімскі Патрыярх Феафан, які аднавіў Праваслаўную Мітраполію на беларускіх і ўкраінскіх землях.

Патрыярх Феафан у 1619 годзе прыехаў у Маскву, з даручэньня Патрыярхаў Александрыйскага, Анціяхійскага й Канстантынопальскага, прыехаў, каб сабраць ахвяры для Ўсходніх Цэркваў, якія былі ў цяжкім матар'яльным стане, бо знайходзіліся пад турэцкаю ўладаю.

Прабыўшы некаторы час у Маскве, Патрыярх накіраваўся ў Кіеў. У дарозе яго спаткалі казакі начале з гэтманам Сагайдачным, і ўзялі Патрыярха пад сваю ахову. „І обточиша его стражею, яко пчёлы матку свою", гаворыцца ў летапісе. У Кіеве ўсё насельніцтва спаткала Патрыярха з вялікім энтузіязмам і пашанаю ды чэсьцю, ды адразу прасілі яго аднавіць асірацелую Мітраполію. Затрымаўся Патрыярх у будынку Багаяўленскага Брацтва.

Атрымаўшы ад караля дазвол на пабыт у Вялікім Княстве Літоўскім, Патрыярх выдаў сваю першую грамату, у якой пасылаў сваё дабраславенства для ўсіх праваслаўных. Адведаў праваслаўныя цэрквы й манастыры ў Кіеве.

Вестка пра пабыт Патрыярха ў Кіеве хутка распаўсюдзілася сярод праваслаўных, і да Кіева пачалі зьбірацца вернікі, каб атрымаць дабраславенства ад Ерусалімскага Сьвяціцеля. На парафіяльнае Сьвята Ўсьпеньня Божае Маці 15-га жнівеня да Кіева-Пячэрскага манастыра сабралася нязьлічоная колькасьць праваслаўнага сьвятарства, паноў, вернікаў-дэлегатаў ад Брацтваў і ад праваслаўнага грамадзтва. У складзе дэлегатаў ад Віленскага Брацтва быў Мялеці Сматрыцкі, які сам аб сабе асьветчыў, што ён з Вільні да Патрыярха быў высланы.

Яшчэ перад 15 жніўнем 1620 году адбылася нарада сьвятарства й прадстаўнікоў Брацтваў і вернікаў, на якой афіцыйна была прынятая пастанова зьвярнуцца да Патрыярха, каб высьвяціў Мітрапаліта й Епіскапаў. Патрыярх, як зазначана ў Густынскім летапісе, напачатку адмаўляўся правясьці хіратонію, бо баяўся караля й палякоў, якія плянавалі таемна зьнішчыць Патрыярха, гэтак, як раней засудзілі экзарха Канстантынопальскага Патрыярха Нікіфара, якога й выслалі ў Марыенбурскую крэпасьць, дзе замучылі, або згінуў з голаду.

Высьвячэньня Мітрапаліта й Епіскапаў моцна дамагаліся казакі, якія сказалі Патрыярху: „Ня будзеш Патрыярхам, ня будзеш добрым пастырам, ня будзеш Намесьнікам Хрыста й апосталаў, калі не паставіш народу Мітрапаліта й Епіскапаў, знайшоўшы нас прыгнечанымі й без пастыраў; і мы навет баімося, каб за адмову высьвяціць не забіў цябе па дарозе які-небудзь зьвер". І, выказваючы гэтыя словы, казакі адначасна прыраклі Патрыярху поўную недатыкальнасьць і ахову.



Пасьля гэткага забясьпечаньня казакамі Патрыярх выдаў другую грамату да праваслаўных, у якой заклікаў непахісна трымацца свае праваслаўнае веры, мужна пераносіць усе перашкоды й выбраць сабе кандыдатаў у Епіскапы. (Летапіс Густ. манаст. бал. 13; Голубеў, Матарыялы для гісторыі Зах. Рус. Царквы, № 37).

Пасьля выбару кандыдатаў Патрыярх правёў хіратонію 6-ці асоб: Ігумен Міхайлаўскага манастыра ў Кіеве Іаў Барэцкі быў пасьвячаны на Мітрапаліта Кіеўскага й Галіцкага; Ераманах Віленскага манастыра Мялеці Сматрыцкі — на Архіепіскапства Полацкае, Віцебскае й Мсьціслаўскае, Ісайя Капінскі — на Епіскапа Смаленскага, Ісаак Барыскевіч — на катэдру Луцкую й Астроскую, Паісі Іпалітавіч — на катэдру Холмскую, Езакііль-Ёсіп Курцэвіч — на катэдру Берасьцейска-Ўладзімерскую (на якую першым кандыдатам быў Архімандрыт Віленскага манастыра Леонці Карповіч, але ў палове верасьня 1620 году ён памёр); на Турава-Пінскую Епархію быў вызначаны грэк Аўрам, Епіскап Стагонскі.

У хіратоніі вышэйвымененых Епіскапаў, апрача Патрыярха, прыймалі ўдзел: Мітрапаліт Баўгарскі Нэафіт і Епіскап Стагонскі Аўрам.

Такім спосабам акт аднаўленьня Мітраполіі Вялікага Княства Літоўскага адбыўся. Кароль і яго ўрад ня прызналі новапастаўленых Ерархаў і не дазволілі ім пераехаць у вызначаныя Епархіі, бо там былі пастаўлены вунійныя Епіскапы, а таму Епіскапы змушаны былі выконваць свае абавязкі нелегальна. У Епархіях сьвятары вызначаліся з мясцовага сьвятарства. Сам Мітрапаліт Іаў Барэцкі змушаны быў жыць у Кіеве пад аховаю казакоў, а не ў Наваградку, дзе была Мітрапалічая Катэдра, і дзе жылі папярэднія праваслаўныя Мітрапаліты, бо мітрапалічая рэзыдэнцыя ў Наваградку была занятая вунійным Мітрапалітам.

Слынны палеміст Мялеці Сматрыцкі, які быў пасьвячаны на Епіскапа ў Полацку, таксама ня мог заняць свае катэдры ў Полацку, бо там сядзеў вунійны Епіскап Ёзапат Кунцэвіч, якога падтрымліваў моцна кароль і ягоны ўрад. Мялеці сярод усіх нававысьвячаных Ерархаў адзначаўся актыўнасьцю й рашучасьцю свайго характару, што ў спалучэньні зь яго высокаю асьветаю й літарацкім талентам узвышала яго на выдатнага Герарха ў тым часе. Пасьля хіратоніі Мялеці пераехаў адразу ў Вільню, разаслаў па ўсёй Полацкай Епархіі паведамленьні, што ён вызначаны на Архіпастыра для Полацка, Віцебска, Мсьціслава й для ўсяе Полацкае Епархіі. Пасяліўся ён ў Віленскім Сьвята-Духавым манастыры й пачаў адпраўляць службы Божыя ў саккасе, а тады саккас належаў толькі да Мітрапаліта. Правіў службы Божыя вельмі ўрачыста, на радасьць праваслаўным і на вялікае зьдзіўленьне вуніятам, якія ўжо напрацягу некалькіх год ня бачылі тут запраўдных Архірэйскіх Багаслужбаў. Мялеці высьвячаў і вызначаў сьвятароў і дыяканаў ня толькі для Полацкай Епархіі, але й для Віленскай, якая была пад уладаю вунійнага Мітрапаліта. У Вільні навет былі пашыраныя весткі, што праваслаўныя перамаглі ў сэйме, і вунія мае быць скасаваная.

Але час яго дзейнасьці ў Вільні быў вельмі кароткі. Пасьля забойства Ёзапата Кунцэвіча ён быў западозраны ў загаворы на забойства, а таму змушаны быў уцякаць у Кіеў, пасьля паехаў на Ўсход, а вярнуўшыся здрадзіў праваслаўю й далучыўся да вуніі.

**Х.**

# БРАЦТВЫ НА БЕЛАРУСІ

Брацтвы ў сваім далёкім мінулым даходзяць аж да паганскіх часаў; яны маюць свой пачатак у старажытных звычаях, якія калісь існавалі ў быце усходніх славян. Яшчэ ў часы сівога політэістычнага паганства ў нашых прародзічаў быў звычай сьвяткаваць свае сьвяты грамадою. На сьвятах сьпяваліся сьпевы-малітвы, сьпевы-падзякі, вадзіліся карагоды, ладзіліся йгрышчы. Гэтыя йгрышчы зьбіралі да сябе жыхароў ня толькі аднэй сялібы. Часта, як кажа й летапісец, йгрышчы былі „межю селы". Разумеецца, што гэтае сьвяткаваньне грамадою магло йснаваць толькі тады, калі йснавала нейкая грамадзкая арганізацыя, якая давала магчымасьць сьвяткаваць разам.

Калі ў свой час у Полацкае Княства прыйшло хрысьціянства, то яно не руйнавала паганства, а проста спакталася з ім, як з фактам, і пачало паціху зжывацца з ім. Сьвяты на пачэсту старых паганскіх багоў пачалі зьлівацца з новымі хрысьціянскімі сьвятамі. Сьвята Нараджэньня Хрыста зьлілося з сьвятам сонца — Каляды, сьвята Яна — з сьвятам сонца — Купалы, сьвята Ільлі — з сьвятам бога маланкі й грому — Пяруна і г. д. Усе гэтыя сьвяты ў новай рэлігіі адбываліся таксама пры грамадзе, як і раней. Як і раней, сьвяты павінны былі арганізавацца асобнымі таварыствамі. Гэтыя гурткі-таварыствы пачалі гуртавацца вакол парафіяльнай царквы й палажылі пачатак брацтвам. Брацтвы пачалі клапаціцца, каб у выдатнейшыя царкоўныя сьвяты з большаю ўрачыстасьцю адбывалася набажэнства і каб усе сябры брацтва ў гэтыя дні былі на сьвяце. Рабіўся агульны сход усіх братчыкаў, пасьля сходу варылася братчына, г. зн. мёд, якім і частаваліся як братчыкі, так і пакліканыя на сьвята госьці. Воск, які заставаўся ад мёду, звычайна ці ахвяроўваўся на царкву, ці йшоў на выраб брацкіх царкоўных сьвечак. Па гарадох у брацтвы часам улучаліся цэхавыя, прафэсыйныя арганізацыі, якія мелі ня толькі рэлігійна-царкоўныя мэты, але й мэты сваёй прафэсіі. У Вільні, напрыклад, з вельмі старажытных часаў было кушнерскае брацтва, зьвязанае з цэхам, які выробляў і гандляваў хутрамі (скурамі). Заснаваньне яго трэба аднесьці да першай паловы XV сталецьця. Апрача яго былі яшчэ іншыя брацтвы: кажамякаў, шапачнікаў, сярмяжнікаў, нагавічнікаў. Апошнія чатыры прафэсіі складалі адзін цэх і адно брацтва. Майдэборскае права беларускіх гарадоў давала шырокія магчымасьці для арганізацыі цэхавых брацтваў.

Брацтвы пры цэрквах захаваліся на Беларусі па вёсках амаль што да першае сусьветнае вайны. Іх арганізацыя й мэты добра вядомы усім, хто ня згубіў сувязі з тагачаснай вёскай. Братчыкі плацяць у касу таварыства грошы, ці даюць ахвяры, як, напрыклад, воск, лён, палатно й г. д. У час набажэнства братчыкі трымаюць у руках брацкія сьвечкі; у асобныя дні брацтва закупляе імшу, пасьля якой адбываецца брацкі абед. Калі хто з братчыкаў паміpае, усе сябры брацтва павінны быць на хаўтурох. Адным словам, брацтвы, якія можна было спаткаць на вёсьцы яшчэ перад першай сусьветнай вайной, мелі мэты, падобныя на мэты старажытных брацтваў.

З канца XVI-га й асабліва XVII-га веку брацтвы пачынаюць пашыраць сваю працу, бяручы на сябе культурна-асьветныя й нацыянальныя заданьні. Пашырэньне брацтваў пачалося ўжо з часоў рэфармацыйнага руху на Беларусі. Ім прышлося дзеля абароны праваслаўнай веры зьвярнуць вялікую ўвагу на разьвіцьцё навукі, якая давала-б грунт для барацьбы з рэфармацыйнымі тэорыямі. За рэфармацыяй прышло на Беларусь узмацаванае, адроджанае каталіцтва з езуітамі начале. Разам з каталіцтвам прышоў і нацыянальны польскі ўплыў. Былі утвораны дзьве вуніі (Люблінская дзяржаўная вунія 1569 г. і Берасьцейская царкоўная вунія 1596 г.), якія накладвалі руку на незалежнасьць Літвы-Беларусі. Перад магнацтвам, нездаволеным злучэньнем, і брацтвамі сталі ўрашце нацыянальна-культурныя й палітычныя заданьні. Трэба было абараняць Беларусь, як самастойную адзінку, з сваім асобным нацыянальна-культурным тварам.

Найраней пачынае шырокую працу Львоўскае брацтва. За ім выступае на шлях шырокай грамадзкай працы Віленскае брацтва. У XVI сталецьці вядомыя брацтвы: у Магілеве, Воршы, Слуцку, Менску, Полацку, Віцебску, Шклове, Крычаве, Берасьці, Горадне, Пінску і інш. У некаторых гарадох было па некалькі брацтваў; напрыклад, у Менску ў сярэдзіне XVII сталецьця было 7. Брацтвы найбольш працавалі па гарадох, дзе сканцэнтравалася культура й скарб. Майдэборскае права давала магчымасьць для шырокай і бязупыннай арганізацыі брацтваў.

Сябром брацтва, апрача сяброў цэхаў, меў права быць кожны дарослы грамадзянін. У склад брацтваў, апрача мяшчан, уваходзілі такім спосабам людзі й іншых станаў. Па вёсках сюды ўваходзіла сялянства. Вельмі часта ў складзе й нават на чале брацтваў стаялі прадстаўнікі літоўска-беларускага магнацтва, якое было ў палітычна-рэлігійнай апазыцыі да шляхты польскай, і выкарыствала брацтвы для сваіх незалежніцкіх мэтаў. Юрыдычна сябры іх лічыліся роўнымі. На брацкіх сходах і за брацкім сталом радавіты шляхціц-магнат не павінен быў мець ніякіх прывілеяў, параўнаўча з сябрамі з ніжэйшых сацыяльных групаў. Зразумела, што гэтая роўнасьць была фармальнаю роўнасьцю, якая зьнікала, калі справа пераходзіла ў будзённае жыцьцё. Замажнейшыя братчыкі былі апякунамі й кіраўнікамі ніжэйшых элемэнтаў брацтва, якія ад іх залежалі. Маючы начале апазыцыйнае магнацтва, брацтвы маглі праз яго рабіць уплыў на сойм, маглі карыстаць з тых правоў, якія давала дзяржава шляхціцам. Шляхціц ці магнат-братчык у Вальным Сойме і на сойміках быў абаронцам палітычных, нацыянальна-культурных інтарэсаў братчыкаў, мяшчан і сялян.

З усіх бакоў, як з боку самых праваслаўных, так і з боку пратэстантаў, ёсьць весткі пра адсутнасьць адукацыі й навет бязграматнасьці сьвятарства. Васіль Цяпінскі, ведамы перакладчык эвангельля на беларускую мову, гаворыць, што праваслаўныя сьвятары не атрымліваюць аніякай адукацыі й навет не разумеюць славянскай мовы, якой напісаны сьвятыя кнігі і ў якой адпраўляецца набажэнства. Брацтвам прышлося найперш за ўсё зьвярнуць сваю ўвагу на гэты жыцьцёвы недахоп. Трэба было даць асьвету пастырам чалавечых душ. Для гэтай мэты трэба было ўтвараць школы й друкаваць кнігі. Брацтвы й асобныя братчыкі заснавалі на Беларусі шмат школаў і друкарняў, якія працавалі ў проціўвагу каталіцка-польскім школам і друкарням езуітаў. Брацкія школы былі адчынены ў Вільні (1585 г.), Берасьці (1591 г.), Магілеве (1590-1592 гг.), Менску (1612 г.), Пінску і іншых гарадох. Друкарні закладаліся па усей Беларусі, па вялікіх і малых местах. Можам назваць друкарні ў такіх местах, як — Вільня, Полацак, Менск, Магілеў, Нясьвіж, Клецак, Любча, Заслаўе, Слуцак, Пінск, Заблудава, Супрасьль, Еўе і інш. Кніжная праца

йдзе жвавым крокам. Асабліва шмат зрабіў у гэтым кірунку князь Канстантын Астроскі. Яго багацтвы далі яму магчымасьць заснаваць для Беларусі вышэйшую духоўную школу ў м. Астрозе. Там, пры духоўнай акадэміі ён заснаваў добра абсталяваную друкарню й вялікую кнігарню. Вельмі цяжка было набраць прафэсараў для беларускай вышэйшай школы. У беларускім грамадзтве ня можна было знайсьці патрэбны лік вучоных людзей. Эзуітаў таксама, на погляд Астроскага, ня можна было запрашаць на прафэсарскія катэдры, каб ня пусьціць каталіцка-польскага ўплыву на студэнтаў. Не шкадуючы вялікіх коштаў, Астроскі выпісваў выдатных вучоных з Грэцыі й з Нямеччыны, і навука акадэміі расходзілася ня толькі па Беларусі, але прасочвалася у Маскоўскае гаспадарства; зьявіліся школы й друкарні па іншых местах Беларусі. Асобныя братчыкі й цэлыя брацтвы, бяручы прыклад з Астроскага, таксама не шкадавалі коштаў на пашырэньне асьветы й адчынялі школы.

На Беларусі быў пашыраны звычай таксванага патранату заможных асобаў і ўстановаў над цэрквамі й манастырамі. Часта патранат быў у руках такіх асобаў і ўстановаў, якія карысталі з гэтага патранату для сваіх уласных асабістых мэтаў. Разумеецца, такі патранат царква лічыла шкадлівым для сваіх інтарэсаў. Вось брацтвы й пачалі клапаціцца пра тое, каб патранат узяць у свае рукі, бо, маючы патранат над цэрквамі, манастырамі, брацтвы маглі рабіць вялікі ўплыў на жыцьцё царквы, а праз яе — на шырокія колы грамадзтва. Патранат брацтваў і асобных братчыкаў у XVII сталецьці ўжо пашырыўся на шматлікія цэрквы й манастыры. Вядома, напрыклад, што адзін толькі князь Астроскі быў патронам больш як 600 цэркваў. Патронамі былі й іншыя братчыкі-магнаты з літоўска-беларускай палітычнай апазыцыі, менш заможныя, чым Астроскі. Калі царква ці манастыр не маглі атрымаць такога заможнага й багатага братчыка, як Астроскі, то апеку над ёю бралі іншыя парафіяне, якія для гэтай мэты ўтваралі брацтвы і ўваходзілі ў сувязь з другімі брацтвамі. Лік брацтваў усё павялічваўся, шмат людзей з мяшчанскага й навет сялянскага станаў было ўцягнута ў гэтую ўтвораную жыцьцём арганізацыю. Паміж асобнымі брацтвамі йшлі жывыя зносіны, багацейшыя арганізацыі рабілі матарыяльную дапамогу бяднейшым. Каб мець большую моц, брацтвы стараліся атрымаць ад патрыярхаў так званую стаўрапігіяльнасьць. Сутнасьць стаўрапігіяльнасьці была у тым, што ўстановы, якія мелі яе, былі непадлеглымі ў адносінах да ўлады епіскапаў. Гэтая непадлегласьць давала права вольнай крытыкі епіскапаў, а ў некаторых выпадках — нават права ўглядацца ў чыннасьць епіскапаў. Выдатнейшыя брацтвы, як, напрыклад, Львоўскае і Віленскае, стаўрапігію атрымалі.

У XVII сталецьці дзейнасьць брацтваў дайшла да вышэйшай ступені свайго разьвіцьця. Гэта былі моцныя й вельмі багатыя арганізацыі. Багацьці іх складаліся як з грошай, так і наогул з рухомай і нярухомай маемасьці. Бяднейшыя сябры брацтваў укладалі ў касу невялічкія ахвяры, затое багатыя сябры на патрэбы брацтваў апісвалі вялікія сумы, вялікія каштоўныя будынкі й шмат зямлі. Лік брацтваў з году ў год павялічваўся, і яны пакрылі тэрыторыю Беларусі даволі густою сеткаю. Пытаньні, якія ставіліся на агульных сходах брацтваў, датычылі ня толькі мясцовага нутранога жыцьця арганізацыі. Часта тут ставіліся й разгляdaліся пытаньні, якія мелі агульна-дзяржаўны й агульна-грамадзкі



# СУПРАЦЬРЭЛІГІЙНАЯ АКЦЫЯ У ГОРАДЗЕНШЧЫНЕ

У часапісе „Чырвоная зьмена" за 24. X. 74 г. зьмешчаны артыкул „У адказе за кожнага". Да артыкулу дадзены падзагаловак — „Цень крыжа зьнікае ў промнях розуму". Як звычайна, агітпроп выгалошвае толькі фальш. І падзагаловак гэты фальшывы. У промнях розуму зьнікаць нічога ня можа, а толькі паўстае. Каб гэты падзагаловак быў лягічны й праўдзівы, трэба было-б напісаць: „Цень крыжа зьнікае ў цемені дуру". Але гэта між іншым...

Аўтары артыкулу Э. Сідараў і В. Шыханцоў — не мэтадысты й не кандыдаты навук — напісалі агляд дзейнасьці камсамолу Горадзенскай вобласьці за астатнія пару год. І, як паказвае загаловак і зьмест артыкулу, стараліся „пакрыць" усіх і кажнага, даводзячы, што антырэлігійная акцыя праводзіцца старанна й рупна й пасоўваецца гладка. А гэта ў сваю чаргу паказвае, што ціск зьверху розных там наяўных і скрытных установаў дзеля ўзмацненьня антырэлігійнай акцыі йдзе няспынны й настырлівы. Акцыя-ж разгорнута такая, каб ахапіць усё насельніцтва, і нікому ня даць супакою.

Аддаўшы хваласлоўе камунізму й атэізму, аўтары пачынаюць сваю атэістычную справаздачу:

„Камсамольскія арганізацыі Горадзенскай вобласьці атэістычнае выхаваньне юнакоў і дзяўчат праводзяць сумесна з органамі культуры, арганізацыямі таварыства „Веды". Пытаньні атэістычнага выхаваньня рэ-

---

характар. Грунтоўнейшым і часцейшым з гэтых пытаньняў было пытаньне абароны праваслаўнай веры й беларускай нацыянальнай культуры, як веры й культуры тых сацыяльных групаў, якія былі большасьцю ў складзе брацтваў. На пастаноўку й абарону гэтага пытаньня брацтвы выдзялялі з сябе энэргічнейшых, разумнейшых і найболып адукаваных людзей. Яны часта станавіліся начале работы ў брацтвах і працавалі словам, пяром і друкарскім станком. Жыва йшла праца ня толькі рэлігійная, але й культурна-нацыянальная, якая стала ў зьвязак з рэлігійнаю. З гораду яна пашыралася і на вёску, адбіваючыся на вясковым, больш сьвядомым элемэньце насельніцтва.

Але барацьба была няроўная. З захаду йшоў ня толькі культурны, але й палітычна-сацыяльны уплыў. У польскі бок пачынае цягнуць вышэйшая магнацкая кляса беларускага грамадзтва, манячыся „вольнымі хрысьціянскімі правамі каруны Польскай", якія даюць ім эканамічную карысьць. Палітычна-культурная апазыцыя беларуска-літоўскага магнацтва зьнікае, бо яна некарысная для магнатаў. На кажным кроку мы спатыкаемся з такімі здарэньнямі, што сыны і ўнукі вядомых магнатаўбратчыкаў ужо пераходзяць у той палітычна-культурны лягер, з якім змагаліся у ранейшыя часы іх бацькі й дзяды (Астроскія, Хадкевічы й інш.). З цягам часу усё больш і больш культурныя сілы з вышэйшых станаў адрываюцца ад тэй працы, якая іх цікавіла й здавальняла. Магнацка-шляхецкая беларуская інтэлігенцыя кідае культуру народу, да якога яны належалі, і паварочвае ў польскі бок. На варце беларускай культуры асталіся „худыя і няслаўныя" слоі грамадзтва, якія разам з тым узялі на сябе й сацыяльную апазыцыю.

**З гістарычных матарыялаў)**

гулярна выносяцца на пленумы й бюро Шчучынскага, Сьвіслацкага, Смаргонскага, Лідзкага, Зэльвенскага райкомаў камсамолу, уключаюцца ў парадак дня камсамольскіх сходаў. У гаркомах і райкомах, пярвічных камсамольскіх арганізацыях вобласьці распрацаваны мерапрыемствы й пляны па ўзмацненьню атэістычнай прапаганды.

„Станоўчы вопыт па атэістычнаму выхаваньню моладзі набыты Сьвіслацкім райкомам камсамолу. Кожны квартал тут праводзяцца сходы камсамольскага актыву, на якіх абмяркоўваюцца пытаньні атэістычнай прапаганды, аналізуюцца прычыны выпадкаў выкананьня рэлігійных абрадаў моладзьдзю (трэба адцеміць, што гэта адносіцца й да самых камсамольцаў — Рэд. Г. Ц.).

„Пры няштатнай лектарскай групе ГК ЛКСМБ (Горадзенскі Гарком камсамолу — Рэд.) створана сэкцыя па прапагандзе прыродна-навуковых і атэістычных ведаў. У яе ўваходзяць 3 выкладчыкі ВНУ, 4 ўрачы, 5 настаўнікаў, 3 выпускнікі школы маладога лектара, якая створана пры факультэце грамадзкіх прафэсій Гродзенскага мед-інстытуту.

„У мінулым навучальным годзе ў вобласьці дзейнічала 180 гурткоў „Асновы камуністычнай маралі" і 30 гурткоў „Асновы навуковага атэізму", у якіх займалася 4938 юнакоў і дзяўчат. У гэтым навучальным годзе ў 303-х гуртках „Асновы камуністычнай маралі" і 62-х гуртках „Асновы навуковага атэізму займаюцца 8700 юнакоў і дзяўчат".

Аўтары артыкулу пералічаюць тыя мясцовасьці й тыя прадпрыемствы, у якіх праводзілася супрацьрэлігійная акцыя. Пералік гэты ды паясьненьні, якія формы подступу да людзей практыкаваліся, якія лекцыі чыталіся, дзе й як „новыя савецкія звычаі ўкараняліся" (але не гавэрыцца, ці ўкараніліся), дзе й якія атэістычныя канфэрэнцыі праводзіліся, як „саветы маладых атэістаў" павялічваюцца, дзе й колькі людзей „парвалі" з рэлігіяй (успамінаецца колькі дзясяткаў і з дзясятак асобаў), як правучваюцца тыя камсамольцы, якія ў царкве вянчаюцца, — усё гэта заняло-б залішне шмат месца ў часапісе, а ў чытача не хапіла-б цярпеньня дачытаць.

Аднак просім зьвярнуць увагу яшчэ на адну выпіску:

„Чацьвёрты год запар Лідзкі гарком камсамолу праводзіць зьлёты салдацкіх мацi. На іх прысутнічаюць ветэраны вайны й працы, будучыя воіны. Па хадайніцтву гарваенкамату камандаваньне вайсковых часьцей адпускае на зьлёты лепшых воінаў — ураджэнцаў Ліды. У час зьлёту дэманструюцца фрагмэнты з дакумэнтальных фільмаў аб буднях воінаў Савецкай Арміі. Перад прысутнымі выступаюць мацi, сыны якіх служаць цяпер у арміі. У канцы зьлёту прымаецца тэкст пісьма-наказу, якое кожная маці высылае свайму сыну".

Тэкст пісьма не падаецца, а ў гэтым-жа якраз уся сутнасьць „зьлётаў". Уважаючы на мэту зьлётаў, можна меркаваць, што ў тым пісьменаказе будзе пасуленьне да зрачэньня веры ў Бога й прырачэньне вернасьці камунізму-ленінізму. Вось гэта ўжо запраўды выдумка хіба-ж злыдуха. Нельга паверыць, каб хоць адна маці з добрае волі адважылася-б пісаць падобныя пісьмы сыну-салдату. Аднак, шмат творыцца ўчынкаў у тым „Гулагу" СССР, такіх, у што паверыць цяжка, нажаль факты гэта паказваюць.

Вядома, што супрацьрэлігійная акцыя не абмяжоўваецца камсамолам. І вядома, што ўсе прадпрыемствы ў СССР дзяржаўныя. Гэтая акалічнасьць спрыяе бальшавіком праводзіць пэўныя акцыі гвалтам пры безадказным зьдзеку з людзей. Дык гэтым гвалтам праводзіцца супрацьрэлігійная акцыя па ўсіх прадпрыемствах. Найбольшую-ж увагу зварачаюць на школы, дзе спадзяюцца асягнуць найбольшы посьпех.

Цяпер асаблівую ўвагу зьвярнулі на раён Жыровіцаў і на Жыровіцкую сярэднюю школу. Спэцыяльна гэтай школе прызначаны артыкул у „Настаўніцкай газэце" з 21. VIII. 74 г. Аўтары: В. Пляшэвіч — мэтадыст рэспубліканскага мэтадычнага кабінэту Міністэрства асьветы БССР, і А. Вішнеўскі — кандыдат гістарычных навук. Сваю навуковасьць яны выказалі ў загалоўку — „Вера ў чалавека". Што гэта мае значыць? Хіба толькі тое, што гэта падрыхтоўка, каб з часам замест „чалавека" падставіць — „Леніна", бо пакуль што пісаць пра гэта не адважваюцца.

Аўтары агаворваюцца: „Заўважым, што гэтую школу мы ўзялі не выпадкова. Справа ў тым, што тэрыторыя, дзе яна размешчана, мае глыбокія карэньні рэлігійнасьці. Усё гэта абавязвае настаўнікаў Жыровіцкай сярэдняй школы зьвяртаць самую пільную ўвагу на атэістычнае выхаваньне як вучняў, так і іх бацькоў". І далей пішуць, пахваляючы працу настаўнікаў гэтае школы.

„Настаўнікі — прадметнікі ня толькі цікава й зьмястоўна выкладаюць вучэбны матарыял, але пры вывучэньні кожнай тэмы падводзяць школьнікаў да разуменьня таго, што навуковыя адкрыцьці адмаўляюць рэлігійнае ўяўленьне аб стварэньні сьвету Богам".

Як відаць, ня толькі ў Жыровіцкай сярэдняй школе, але па ўсіх школах абвешчана „ударная" атэізму. Паўтарэньне пройдзенага, толькі з іншым зьместам. Так раней вымагалася, каб кажная лекцыя ў школах была насычана „коммунистическим содержанием". Насычэньне-ж выяўлялася толькі ў тым, каб вучнёўскія вушы абіваць словамі — Ленін, Сталін, сацыялізм, камунізм, бо зьместу таго камунізму самі „ўдарнікі" не ўяўлялі, як і не ўяўляюць . Гэтак насычалі аж покуль занудзіла, а навет і званітавала Сталіным. Цяпер-жа атэістычная акцыя ўводзіцца ў школы, а таксама і ўсюды між людзей, больш учэпіста й настырліва; бо ня так у атэізьме сутнасьць, як у навярненьні на веру ў Леніна. І так думаецца, што скончыцца гэтая акцыя адначасна тады, калі бальшавізм наверне галавою.

Паводля справаздач у прэсе выглядала-б, што ўжо школы і ўсё насельніцтва абнятае антырэлігійнай акцыяй і што імя Бога ўжо выцісьнутае з галоваў. Але, хоць вельмі рэдка, праводзяцца часамі апытальнікі ў пэўных вызначаных калгасах, і блізу палова жыхарства — больш ці менш — аказваюцца вернікамі, а досыць вялікі працэнт хаваецца пад рубрыкаю абыякавасьці. І партыйныя цівуны — прыганятыя ўсьцяж галосяць: — узмоцніць, пашырыць, ахапіць, выкараніць! І не абмяжоўваюцца тэй „дабравольна-прымусовай" акцыяй. Дзейнічаюць і суды, высылкі ў лягеры, зьняволеньні ў турмах і „псіхушках" — установах, этапных да Ленінскага камунізму.

Калі-б чалавек ня меў надзеі на лепшае, цяжка было-б выжыць людзкому роду. Надзея-ж у рэлігіі найгалаўнейшае пачуцьцё. І чым больш будзе злачынны ціск цяперашніх крамлёўскіх валадароў, чым больш старанье будуць чыніць, каб зьмяніць прыроджаную натуру чалавека й гэтым самым зьневажаць і зьдзекавацца з яго, чым больш караў будзе накладацца на людзей, — тымбольш будзе ўзмацняцца надзея на вызваленьне з няволі, і вера ў Вышэйшую сілу, вера ў Бога. Бо ў існуючых абставінах каму можа пажаліцца чалавек і ў каго прасіць помачы?

# НАПОРНАСЬЦЬ ЗЛА

Нішто так ня турбуе цяпер бальшавіцкіх валадароў, як стан рэлігіі ў СССР, асабліва рэлігіі хрысьціянскай, як найбольш пашыранай у СССР і найбольш супярэчнай бальшавіцкаму гвалту. Ні голад і галота, якія ўсьцяж бытуюць, ні непаладкі ў прамысловасьці й асабліва ў сельскай гаспадарцы, направу якіх даклярують у кажнай пяцілетцы ні навет паджога нутраных закалотаў у іншых краінах так не карціць ім, як змаганьне з рэлігіяй. На гэтае змаганьне закладаюць спэцыяльныя навучальныя ўстановы й забавязваюць увесь агітпроп і ўсе іншыя навучальныя ўстановы, усю прэсу, усе прадпрыемствы, як і калгасы, усялякія віды мастацтва, і перадусім — усе школы. Астатнімі часамі пачынаюць уводзіць у школы новую дысцыпліну — этыку, ведама бальшавіцкую, якую этыкай і назваць-бы нельга. І даклярують уводзіць яе з самых першых дзён навучаньня дзяцей. І тут маюць наўвеце першым чынам супрацьрэлігійную акцыю. Гэтая задума меціць у тое, каб зьнівэляваць, перасеч узгадаваўчы уплыў бацькоў на дзяцей. Калі-ж бацькі захацелі-б ухаваць дзяцей ад гэткае навукі, то на іх накладаецца цяжкая кара. Тут ужо бальшавізм, адмаўляючы законы Божыя, адмаўляе гэтым самым і закон прыроды — натуральнае права й абавязак кажнага жывога стварэньня ўзгадоўваць і выхоўваць сваіх дзяцей, нашчадкаў.

З першага пагляду здавалася-б дзіўным, чаму верхаводы бальшавізму так зацята змагаюцца з рэлігіяй.

То-ж чалавек рэлігійны, скажам, хрысьціянін, гэта скарб для ўладароў: гэта спакойны, паслушны працаўнік, выконвае ўсе патрабаваньні, усе загады, ніякіх супраціўных акцыяў ні гвалту ня чыніць і найменшых перашкодаў ні ў чым ня ставіць. Дарэчы яшчэ адцеміць, асабліва для лгуноў і гвалтаўнікоў, што пачаткі навукі йдуць у нас ад хрысьціянства, і што найвялікшыя адкрыцьці ў навуцы зрабілі людзі, якія ня былі атэістамі. Дык чаму так нагла й напорна вядзецца гэтае змаганьне з рэлігіяй? Аднак-жа, падзіўленьне гэтае разьясьняецца зусім проста. Сустракаюцца два супрацьлежныя пачаткі. Калі-б навуку Хрыста назваць ідэялёгіяй, то яна месьціцца ў адным складаным запавеце: узьлюбі Бога твайго ўсім сэрцам тваім і усею душою тваею й бліжняга твайго, як самога сябе; карацей кажучы — любоў і чалавекалюбнасьць. З другога-ж боку — адмова Бога й адухатваронасьці чалавека, супраць любові — чалавеканянавісьць, прыкрытая таксванай „клясавай" нянавісьцяй, супраць лагоднасьці — гвалт, супраць праўды — ілжа, супраць дабра — зло. Усё — анты...", як і ўся акцыя агітпропу, пачынаючы ад Леніна — антынавука.

Падсавецкая прэса запханая артыкуламі „на атэістычныя тэмы", з подпісамі, звычайна, — „кандыдат навук". Хтось А. Красноў — кандыдат філясофскіх навук, дацэнт Менскага дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту замежных моваў, напісаў артыкул „Прымірэньня ня будзе" (Настаўніцкая газэта, 22. 5. 74 г.). Хрысьціянін на гэта, сумна ўсьміхнуўшыся, адкажа: „Гэтым ня страш, бо прымірэньня з гвалтам і злом мы ня хочам і ня прымем". Другі кандыдат навук (гістарычных), хтось В. Коршук, разглядаючы кнігу Р. Платонава „Воспитание атеистических убеждений", выдадзеную ў Менску ў 1973 годзе, піша:

„Аўтар падкрэсьлівае, што тэарэтычнай і мэтадычнай асновай навукова-атэістычнай прапаганды зьяўляецца ленінскае насьледзьдзе" (Савецк. Беларусь, 16. 5. 74 г.). Што праўда, гэта й без Платонава й бяз Коршука ведама. Ленін, апёршыся на Маркса й ягоную тэорыю клясавага змаганьня, прыправіў яе ядам чалавеканянавісьці й зла. І гэтая тэорыя абярнулася ня ў што іншае, як у душагубства. І першым нязьбітым доказам гэтага зла й яго выніку — дзясяткі міліёнаў выгубленых людзей. Ленін, дапяўшы да ўлады, кінуў адно з сваіх зьядлівых выслоўяў — „очистить Россию от насекомых". І перш сам, а потым праз сваіх спадкаемцаў, у асаблівасьці Сталіна, выгубіў гэтыя міліёны ні ў чым нявінных людзей. У гэтыя „насякомыя" трапілі толькі тыя, хто ня прыймаў ленінскае „ідэялёгіі", альбо й рад быў-бы зусім адчапіцца ад самое Расеі. А прычым тут клясавасьць, прычым тут клясавая экспляатацыя? Цяперака ўстаноўленая паводля ленінскае навукі экспляатацыя й няволя непараўнальна горшая, як была. Ленін устанавіў ЧЭКА, якое мяняе назоў, але не мяняе сутнасьці. Ленін устанавіў ілжывы агітпроп, які вось ужо звыш паўвеку бесперапынна лжэ й на праўду пахіліцца ня можа. Бо з таго мамэнту, калі-б ён пачаў гаварыць праўду, і калі бальшавікі пачалі-б выконваць навет тыя законы, якія самі напісалі, — яны ўжо ня былі-б бальшавікамі. Бальшавізм-ленінізм, і самаволя-гвалт — сынонімы. І ня што іншае, як толькі прагнасьць ўладарнага самадзяржаўя, а не дабро й праваапарадак, цягнула Леніна да захапленьня ўлады, як і цяпер праўдзівыя клопаты крамлёўскіх уладароў ў тым, каб утрымацца пры ўладзе; дзеля гэтага-ж сыстэматычна лгуць, даклярующы ўжо абрыдлыя нерэальныя абяцанкі на будучыню.

Усе атэістычныя „кандыдаты навук", як і ўспомнены А. Красноў, паўтараюць усьцяж блатныя, ужо зашмараваныя сказы, што навука „абвяргае" існаваньне Бога, і папракаюць царкоўнаслужыцеляў за „дастасаваньне рэлігіі да вымогаў часу". Красноў піша: „Усё радзей гавораць яны (царкоўнаслужыцелі) пра тое, што Бога можна бачыць і чуць. Бог паводля сьцьвярджэньня сучасных царкоўнікаў — гэта любоў; Ён выяўляецца толькі ў душы веручага. Служыцелі культу не малююць ужо й пекла з чарцямі й гарачай смалой. Для сучасных царкоўнікаў пекла — гэта „сымбаль маральных пакут", а чорт, „зборны вобраз усякага зла".

Прыслужныя „кандыдаты навук" ня розьняцца ад сваіх уладцаў і лгуць не чырванеючы. Царкоўнікі ня могуць казаць, што Бога можна бачыць, бо ў рэлігійным Пісаньні гаворыцца якраз адваротнае; Бога нельга бачыць, бо Бог ёсьць Дух. Што да пекла, то гэта, пэўна-ж, рэч праблематычная: ніхто яго ў рэальным матарыяльным выглядзе не паказаў і не апісаў. Гэта-ж ня то што Салаўкі ці Котлас ці іншыя пякельныя адзінкі ў тым „Архіпэлягу Гулагу", вакол якіх зямля прапоеная чалавечай крывёю й перасычаная чалавечымі трупамі. Відочна дзеля гэтага цяперашняе тлумачэньне пекла асабліва не падабаецца абаронцам бальшавізму, бо назіральным паказальнікам гэтага сымбалю „маральных пакут" і „зборнага вобразу усякага зла" можа быць той бальшавіцкі „Гуляг СССР". Ці трэба яшчэ большых пакут і выгубленьня народу? Ці трэба больш лягераў, турмаў і розных катавальняў, як тыя мадэрныя псыхіятрычныя ўстановы, куды саджаюць псыхічна здаровых людзей, каб скалечыць нармальны стан мысьленьня чалавека? Досыць усяго гэтага, каб той „зборны вобраз усякага зла" паўстаў як вобраз пякельнай моцы.

З усей тэй навальніцы атэістычных „твораў", розных „навуковых" артыкулаў, расказаў, вершаў, песень ды іншай макулятуры, а таксама

й прамоваў на „атэістычных" зборышчах — мала знойдзецца такіх, дзе-б увесь гэты бруд ня прыкрываўся выказваньнямі Леніна — асновапаложніка ілжывага агітпропу й пашыральніка зла. Яшчэ й цяпер „падсіляюцца" словамі Леніна, што змаганьне з рэлігіяй трэба спалучаць з клясавым змаганьнем, „каб зьнішчыць карані рэлігіі", хоць-жа тыя клясы даўно ўжо зьнішчаныя, — цяпер толькі творацца новыя ў самой партыі, а мова пра карані рэлігіі — пустая балбатня, бо рэлігія зьявілася на сьвет разам з чалавекам. Уся-ж навука Леніна добра характарызуецца ягонай газэтай, якую ён назваў „Праўда", у пэўнай сьведамасьці, што там будзе зьмяшчацца, як і зьмяшчаецца, пераважна і ўсьцяж ілжа.

Не абыйшоўся без дапамогі Леніна й кандыдат філязофіі Красноў, падаючы выказваньні Леніна пра „падчышчаную" рэлігію: „Мільён грахоў, ганебных учынкаў, насільля й заразаў фізычных куды лягчэй раскрываюцца натоўпам, і таму куды менш небясьпечныя, чым тонкая, духоўная, апранутая ў самыя прыгожыя „ідэйныя" касьцюмы, ідэя „боданькі".

Што гэта? — глыбокадумнасьць? Гэта самаілжывая засьлiненая злом пахабаўшчына, вульгаршчына. Нажаль, Ленін здабыў сабе прыхільнікаў і арганізаваў уладу бальшавізму на такой разьлеглай тэрыторыі; цяпер ужо зло шырыцца па сьвеце чыньнікамі дзяржаўнымі. У гэтым аспэкце геніяльнасьці Леніну нельга адмовіць.

Звычайна, кажная рэлігія, як з даўнейшых, так і з цяперашніх, вызнае і ўшаноўвае вышэйшую сілу Дабра. Бальшавікі вызнаюць за вышэйшую сілу злаcьлівую ілжу. Абвяшчаюць ужо пройдзены сацыялізм і хуткі падыход да камунізму. Гэтыя цьверджаньні й абяцанкі выклікаюць у людзей жудасьць, калі бліжэй глянуць на безладзь падсавецкага жыцьця й на той тэрор і ціск, пад якімі звыш паўвеку жывуць там людзі.

Сацыялёгі-тэарэтыкі, распрацоўваючы свае тэорыі ў межах чалавечнасьці, надалі слову „сацыялізм" значэньне нейкага паступовага, лепшага парадку — вольнасьць, роўнасьць, братэрства, згода, любоў. Сацыялёгі-тэарэтыкі матарыялісты, перадусім Маркс — тэарэтык, а Ленін — пераважна практык, апэрліся на гвалт і праклямавалі дыктатуру пралетарыяту. Практыка-ж Ленінскае дыктатуры пралетарыяту паказала, што гэта дыктатура зусім не пралетарыяту, а дыктатура хіжацкая, пралетарыят-жа апынуўся ў яшчэ горшым становішчы, у якім быў да гэтае дыктатуры. Ленін назваў свой устаноўлены лад сацыялізмам, і бальшавікі ўсьцяж цьвердзяць гэта, а ў запраўднасьці гэты лад яшчэ не атрымаў уласьцівага назову, бо ў гісторыі падобнага ня было. І які-ж мае быць той камунізм, пра які галосіць агітпроп, што ўжо вырушылі ў паход да яго? Які мае быць той камунізм, да якога йдуць шляхам палітым чалавечаю крывёю ды вымашчаным чалавечымі касьцямі- Гэтым верхаводы бальшавізму не абцяжваюць сваіх галоваў, дый тэарэтыкі бальшавіцкага „сацыялізму й камунізму" ужо зьвяліся. Толькі заведзеныя аўтаматы агітпропу ўсьцяж галосяць пра той рай на зямлі, калі, як гэта дакляруюць, будзе „кажнаму паводля патрэбы". А пакуль што, душы людзкія мучацца ў зямным пекле. Уладары-ж бальшавізму рупяцца толькі пра тое, каб давесьці людзей да такога стану, калі-б яны гэтае пекла зямное за рай прызналі. Дзеля гэтага ім трэба зьнішчыць веру людзей у Бога, як у вышэйшае Дабро й Любоў, ды „укараніць" веру ў зло і ў яго пашыральніка Леніна.

**Л-ч**



## КАРЫСЬЦЬ І ШКОДА АД ТЭЛЕВІЗІІ

Сам тэлевізар — цікавы й разумны вынаход. Пытаньне толькі, як яго выкарыстоўваць?

Амаль кажную рэч можна ўжываць як для дабра, гэтак і для няшчасьця. З дапамогаю агню можна абагрэць халодную хату й ратаваць людзей ад замярзаньня. Але таксама з дапамогаю агню можна спаліць і прытулак для сіратаў. З дапамогаю сякеры можна пабудаваць дом, але сякераю можна й забіць чалавека. Гутэмбэрг вынайшаў спосаб друкаваньня кнігаў і выдаў Біблію, а сучасныя бязбожнікі на друкарскіх варштатах зьнеслаўляюць імя Божае.

Усё залежыць ад таго, як чалавек карыстаецца здабытаю рэчаю. Зласьлівы чалавек заўсёды думае, каб ўчыніць для іншага ліха, а добры думае зрабіць дабро. І калі праз тэлевізію мы слухаем добрага прапаведніка, як Біллы Грагам, або іншых, мы слухаючы радуемся й славім імя Госпада, дык зразумела атрымоўваем з гэтага вялікую карысьць для душы. Але, калі глядзімо амаральныя й распусныя фільмы, або жудасныя сцэны, то атрымоўваем толькі шкоду. Злыдзень тут стараецца ператварыць дабро ў няшчасьце.

Надзвычайны вынаход тэлевізійнага апарату ў бальшыні выкарыстоўваецца дзеля нажывы. Паказваючы безьліч амаральных, жудасных, бязглуздых фільмаў, гэтым прываблiваюць людзей, якія кажны дзень па некалькі гадзін сядзяць каля тэлевізара, і глядзяць бязвартасныя, таксама й вельмі шкодныя фільмы, замест таго, каб выкарыстаць дарагі час для карысных і добрых справаў.

У бальшыні вытворцы фільмаў, а таксама й фільмовыя артысты, якія працуюць у найграваньні фільмаў вылучна для ўласнае нажывы, нібы не адрозьніваюць ліха ад дабра, і даюць прадукцыю пераважна бязвартасную, альбо й шкодную, амаральную, а навет брудную.

А тыя, якія захапляюцца гледзячы гэткія фільмы, нічога добрага ня могуць навучыцца. А слова Божае навучае нас: „Ня дайце сябе ашукаць, бо дрэнныя вашыя суполныя разбэшчваюць і добрую натуру". І зусім не беспадстаўныя цьверджаньні шматлікіх людзей, што тэлевізія спрычынілася да шырэньня праступстваў, таксама й забойстваў.

Дзеці асабліва хутка ўспрыймаюць і вучацца ўсяго кепскага, гледзячы крымінальныя фільмы й саромныя праграмы. Яны любяць іх глядзець ня толькі гадзінамі, але й цэлымі днямі. Ведамы амэрыканскі доктар псіхіятр, паведамляючы пра вынікі спэцыяльнага дасьледваньня аднае групы псіхіятраў кажа, што апрача ўсяго іншага „тэлевізійныя праграмы абніжаюць у дзяцей творчыя здольнасьці й робяць дзяцей няздольнымі да навукі й жыцьця".

Апрача шкоды для маладое душы, калі дзеці доўга глядзяць тэлевізію седзячы, а часам лежачы на карпэтах, гэта спрычыняе й фізычную шкоду, бо знаходзячыся праз даўжэйшы час ў нярухомай позе, пагоршваецца цыркуляцыя крыві, а калярове выпраменьваньне спрычыняе аслабленьне зроку.

Добрыя й карысныя перадачы цяпер надаюцца, як выняткі. Напрыклад, у нядзелі можна бачыць і чуць вельмі карысныя рэлігійныя перадачы, якія можна з задаволеньнем глядзець. Бываюць добрыя фільмы навуковыя з розных галін веды, ці з сучасных падзеяў людзкога жыцьця, таксама на аснове паважных літаратурных твораў.

Шчырыя вітаньні з Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага, і найлепшыя пажаданьні ў Новым 1975 годзе.

**Прат. Васіль Кендыш з сям'ёй**

## НОВАЕ ПРЫЗНАЧЭЬНЕ

На падставе пастановы Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з 18-га травеня 1974 году Ўладыка Мітрапаліт Андрэй прызначыў Пратаерэя Аляксандра Кулакоўскага, кіраўніка Парафіі Сьв. Антона, Яна й Еўстафа ў Мэльбурне, на прадстаўніка й адміністратара БАПЦарквы ў Аўстраліі й Новай Зэляндыі.

1-га жнівеня 1974 году.

**Кансысторыя БАПЦарквы**

## П А Д З Я К А

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы складае шчырую падзяку ўсім нашым парафіянам і суродзічам, якія адгукнуліся на наш заклік і перaслалі сваю ахвяру 1974 году.

---

## ЗДАРОЎЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ НЯ ТОЛЬКІ АД ЛЕКАЎ, АЛЕ Й АД МАЛІТВЫ

„За трыццаць год лекарскае практыкі я меў нагоду пазнаць розьніцу між лячэньнем з малітваю й без малітвы". Гэтак сказаў ангельскі лекар, які мае больш 30 гадоў лекарскае практыкі, прамаўляючы ў англіканскай царкве сьв. Паўлы ў Таронта. Ён зазначыў, што надыйшоў час, калі ў справе лячэньня хворых людзей рэлігія й мэдычная прафэсія мусяць ізноў аднавіць супольнае партнэрства.

Д-р Эдвард Обэрт кажа, што сучасная мэдыцына сталася занадта матар'ялістычнаю ў справе лячэньня людзей, і яе ўважаюць проста за нейкую мэханічную сутнасьць, а не за навуку для цела й жывое чалавечае душы. З асабістага досьледу яму ведама, што хворыя людзі, якія ў працэсе лячэньня паддаюцца й рэлігійным уплывам, вылечваюцца значна лепш.

Д-р Э. Обэрт, які належыць да асяродку здароўя „Дороты Кэрын Гоўм" у Кэнт, Англія, — для слухачоў у Таронта паведаміў: „Звыш 20-ці год я пэўніў функцыю сямейнага лекара, адзінаццаць год быў у цэнтры, дзе мэдыцына спалучана з малітваю, і я меў добрую нагоду пазнаць розьніцу". Ён кажа, што вера хворага чалавека дапамагае лячыць яго мэдычнымі сродкамі нагэтулькі, што бальшыня людзей ня могуць сабе гэтага ўявіць. Але нажаль, мадэрныя сучасныя мэдычныя школы, так прытрымоўваюцца дасягненьняў тэхналёгіі, што яны часта недабачваюць духоўных праблемаў у людзей, у якіх гнеў, страх, псыхоза, вельмі часта бываюць прычынаю хваробы.

Але часта, казаў Д-р Обэрт, духовае лячэньне спрыяе людзям чакаць ад малітвы магічнае сілы. Гэткія людзі спадзяюцца на цуды, а мэдычныя лекі занядбоўваюць. Гэта таксама памылковы падыход. Між мэдычным і духовым лячэньнем не павінна быць разыходжаньняў, а трэба іх спалучаць, бо абодва спосабы лячэньня паходзяць ад Бога, сказаў Д-р Э. Обэрт, які быў запрошаны даць даклад для лекароў і сьвятарства ў ангельскім цэнтры „Аўрора" ў Онтарыё. (Паводля: Вісьнік, 1. X. 1973)



**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ МІКАЛАЙ ПЭНДА**



**Народжаны 14-га сьнежня 1904 году ў мястэчку Ўселюб у Наваградчыне. Адыйшоў у вечнасьць 18-га кастрычніка 1974 году ў Кліўленьдзе, аб чым з сумам паведамляюць:**

**Настаяцель Парафіі, Парахвіяльная Рада,**
**Жонка дачка і ўнук.**

---



Сьв. памяці Мікалай Пэнда памёр пасьля доўгае невылячальнае хваробы. Памёр у сваім доме, прыняўшы таінства сьв. Споведзі й Прычасьця, якія ўдзяліў яму Ўладыка Андрэй. Пакойны быў ня толькі прыкладным парахвіянінам БАПЦарквы, але ад пачатку аднаўленьня Царквы ў Нямеччыне бяз зьмены быў Царкоўным Старастам і верна выконваў свае абавязкі аж да адыходу ў вечнасьць.

Паховіны адбыліся ў Сыботу 19-га кастрычніка. У 9-тай гадзіне зрана цела было перанесена з пахароннага бюра ў Царкву Жыровіцкае Божае Маці, дзе была адпраўлена Заўпакойная Літургія й абрад паховінаў. Пахаваны на магільніку Рывэрсайд. Пасьля паховінаў у Царкоўнай залі адбыўся жалобны абед.

У глыбокаму смутку пакойны пакінуў жонку Дамяніку, дачку Фаню і ўнука Валентына.

Няхай з Богам спачывае гэты незабыўны царкоўны служыцель. Няхай будзе яму лёгкаю Амэрыканская зямля, а душа яго атрымае узнагароду за сваю верную зямную рэлігійную працу.

**Вечная Яму памяць!**

---

**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ АПАНАС ШАВЕЙКА**



У глыбокім смутку пакойны пакінуў жонку Дамяніку, дачку Фаленьдзе сьв. пам. Апанас Шавейка. У пятніцу а гадзіне 7-й увечары ў бюра паховінаў Уладыка Андрэй адслужыў Паніхіду за супакой ягонай душы. А ў сыботу рана цела было перавезена ў царкву, дзе была адслужана Заўпакойная Літургія й чын паховінаў, 14. 9. 1974 г.

Пахаваны на магільніку Рывэрсайд Цэмэтэры ў Кліўленьдзе. Нарадзіўся пакойны 1-га травеня 1912 году ў наднямонскай вёсцы Беражна, Стаўпецкага павету. У часе другое Сусьветнае вайны быў змабілізаваны ў польскую армію, трапіў у нямецкі палон, дзе быў аж да капітуляцыі Нямеччыны. Звольніўшыся з лягеру, ажаніўся яшчэ ў Нямеччыне, і разам зь іншымі ўцекачамі пераехаў у Амэрыку. Асіраціў жонку й двух сыноў.

**Вечная яму памяць!**

## ДЗЬВЕ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ БАПЦАРКВЫ Ў ТАРОНТА

Важныя царкоўныя чыны адбыліся сёлета 9-га й 10-га лістапада ў Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Першае — сьвяткаваньне дваццацілецьця йснаваньня Парафіі; другое — пасьвячэньне брата Максіма Таўпекі ў сан ерэя.

Урачыстасьць распачалася ў сыботу Сьв. Літургіяй. У гэты дзень была адслужаная Саборная Багаслужба, якую правілі Ўладыка Андрэй і Ўладыка Мікалай у асысьце Пратаерэя Міхайла Мігая й Дыякана Міхайла Страпко.

У сыботу 9-га лістапада Архіепіскап Мікалай пасьвяціў брата Максіма ў іпадыяканы й дыяканы, а ў нядзелю 10-го лістапада Мітрапаліт Андрэй пасьвяціў Дыякана Максіма ў сан ерэя.

Падзею гэтую ўсе прысутныя ўспрынялі з радасьцяй, бо-ж Беларускі Народ і Беларуская зямля праз сталецьці чакалі на сваіх Архіпастыраў і сваіх сьвятароў, як сьведамых родных сыноў, якія былі-б душою, розумам і сэрцам адданыя сваёй царкве.

У гэты-ж дзень быў узнагароджаны тытулам Пачэснага Парафіяніна БАПЦарквы рэгент хору й сакратар Рады Парафіяльнай брат Мікола Ганько.

Пасьля Багаслужбаў у сыботу й нядзелю захадамі Парафіяльнае Рады былі прыгатаваныя шчодрыя абеды, у часе якіх выказваліся дасягненьні й хібы ў дзейнасьці Парафіі ад пачатку яе заснаваньня, пра што дакладна выказаў у сваім рэфэраце М. Ганько.

Шмат прывітаньняў было скіравана да новапасьвячанага а. Максіма й пажаданьняў яму доўгіх лет працы. Не забыліся прасьпяваць яму „Многае лета".

Шчырaю малітваю „Багародзіца Дзева Радуйся" і ўдзячнасьцяй Богу ў Тройцы Сьвятой удзельнікі закончылі ўрачыстасьць.



## ХРОНІКА

### З АЎСТРАЛІІ

**Мэльбурн, 1974 г.**

Сёлета сьвяткаваньне 25-га Сакавіка Парафія БАПЦарквы абыходзіла ў нядзелю 24-га сакавіка. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен. Настаяцель а. Аляксандар выгласіў прачулую казань. Сястрыцтва паклапацілася прыгатаваць багаты абед, які адбыўся ў прыцаркоўнай залі.

У Фаміную Нядзелю, за звычаем мінулых гадоў, пасьля Сьв. Літургіі й Паніхіды, а. Аляксандар разам з вернікамі Парафіі Сьв. Антона, Яна й Еўстафа адведалі магілкі суродзічаў, якія з Волі Божае адыйшлі ў вечнасьць. У гэтым годзе беларуская грамада была лічнейшая, як у мінулыя гады. Наведваньне супачыўшых закончылася на беларускай дзялянцы высьвячэньнем двох новапастаўленых памятнікаў.

9-га чырвеня ў Мэльбурне адбылася міжцаркоўная канфэрэнцыя. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтаваў а. Аляксандар Кулакоўскі разам з Сакратаром Парафіяльнае Рады.

16-га чырвеня 1974 г. адбыўся чарговы справаздачна-перавыбарчы Парафіяльны Сход. Справаздачы Кіраўніка Парафіі, Царкоўнага Старасты, Скарбніка й Рэвізійнае Камісіі былі зароўна цікавымі й пацяшальнымі для вернікаў. Сход удзяліў уступаючай Парафіяльнай Радзе абсалютарыюм з падзякай, ды пры поўнай згодзе й паразуменьні была выбраная новая Парафіяльная Рада на наступныя два гады. Жадаем добрых посьпехаў.

17-га чырвеня — Дзень Народжаньня Каралевы — дзяржаўнае сьвята ў Аўстраліі. Сястрыцтва пры Парафіі, выкарыстоўваючы дзень вольны ад працы, наладзіла супольны „пікнік", які адбыўся на фарме сужэнства Яна й Галіны. Забавак было пад дастаткам для ўсіх удзельнікаў пікніку: пачастункі, танцы, гульны ды лоўля рыбы, што найболып цешыла лічную колькасьць моладзі. Гаспадаром фармы Янку й Галіне належыць шчырае беларускае дзякуй.

18-га чырвеня на 79-м годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць Зенові Ясіновіч. Цела пакойнага Зеновія пахавана 20-га ліпеня 1974 г. на беларускім могільніку. Чын пахарону выканаў Пратаерэй а. Кулакоўскі.

18-га чырвеня на 51-м годзе жыцьця неспадзявана адыйшоў у вечнасьць Васіль Гадкоўскі. Пакойны пакінуў жонку й пяцёра дзяцей — наймалодшаму пяць з паловай гадкоў. Цела пакойнага пахавана 21-га ліпеня 1974 г. Чын пахарону выканаў а. Кулакоўскі.

30-га чырвеня, з нагоды 30-х угодкаў заснаваньня БКА і з нагоды 2-га Беларускага Кангрэсу, пасьля Сьв. Літургіі служыўся Малебен за Беларускі Народ. Сястрыцтва падбала ўпрыгожыць царкву. Прыгожа пяяў узмоцнены хор. У сваім слове а. Аляксандар высьветліў прысутным значэньне падзеяў для нашае сучаснасьці, якія адбыліся перад трыццацьма гадамі. Малебен закончыўся многалецьцем нашым Уладыкам, Беларускаму Народу ды працаўнікам на рэлігійнай і грамадзкай ніве.

27-га ліпеня Сястрыцтва пры Парафіі з нагоды свае Гадавіны наладзіла вечарыну ў добра ведамай нашаму грамадзтву залі. З прыемнасьцю трэба адзначыць, што дзякуючы ахвярнасьці і ўмеласьці Сястрыцтва вечарына прайшла вельмі ўдала — у гасьцей засталося вельмі добрае ўражаньне, а выручка ў сваю чаргу павялічыла скарбонку Сястрыцтва. Можам ганарыцца нашым Сястрыцтвам ды пажадаць яму плённай працы ў будучыні.

18-га жнівеня адбылася чарговая справаздачная зборка Сястрыцтва. Прысутныя з цікавасьцяй выслухалі пацяшальныя справаздачы з дзейнасьці й асягненьняў Сястрыцтва за мінулы год. За ахвярную й карысную для нашага грамадзтва працу Настаяцель даручыў Сястрыцтву Пахвальную Грамату за подпісам Уладыкі Мітрапалаіта Андрэя.

19-га кастрычніка Сястрыцтва ў Мэльбурне зладзіла „Веснавую Вечарыну". Прысутныя на вечарыне змаглі правесьці вечар у прыемнай атмасфэры, пры добрай аркестры, у далікатна упрыгожанай залі з усімі выгодамі. Спадзяёмся наступнай вечарыны. У нас цяпер вясна. Надыйходзіць гарачае лета, якое тут надта дакучае.

12-га лістапада Настаяцель Парафіі ахрысьціў Андрэя, — сына Аляксандра й Уршулі, — вернікаў Парафіі ў Мэльбурне. Няхай Усемагутны абдорыць Андрэя добрым здароўем, каб хутка рос на Славу Бога, на радасьць і пацеху бацьком ды на гонар беларускаму народу. Дай Божа!

## АДЭЛЯЙДА

1-га верасьня сёлета адбыўся Агульны Сход Парафіі БАПЦ Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе. Сход адбываўся ў новапабудаванай залі. Парафіяне з увагаю й цікавасьцю слухалі справаздачу Старшыні К. Станкевіча. Ён выказаў асаблівую падзяку а. Гэоргу за ягоную ганаровую й ахвярную працу для Парафіі, як таксама за ахвяру каштоўнае завесы на Сьвятыя Дзьверы й пакрыўку на Плашчаніцу. Старшыня выказаў шчырую падзяку Ул. Кулінічу за значную грашовую дапамогу на будову прыцаркоўнае залі. Парафіяльная Рада ўставіла ў царкоўнай сьцяне мэмарыяльную дошку ў гонар заснавальніка й шматгадовага кіраўніка сьв. пам. Мітрафорнага Пратаерэя Міхаіла ШЧУРКА.

Выбрана новая Парафіяльная Рада ў наступным складзе: К. Станкевіч — Старшыня, Ул. Акавіты — Заст. Старшыні, М. Бурнос — Сакратар, А. Сітнік — Скарбнік, К. Ранцэвіч і І. Ральсон — Сябры Рады, П. Трысмакоў — Стараста, А. Шыркевіч — Заст. Старасты.

Рэвізійная Камісія — браты Левановіч, Піўневіч і Лемяшэўскі.

## У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Ужо ўвайшло ў звычай у Парафіі ў Кліўленьдзе кожны год адпраўляць адзін раз Божую Службу пад адкрытым небам. У гэтым годзе такая Багаслужба была 21-га ліпеня на аселішчы Полацак. Вернікаў на Багаслужбу звычайна зьбіраецца больш як у царкве, бо кожны хоча скарыстаць адначасна і з сьвежага й чыстага паветра. Пасьля Багаслужбы там-жа на Полацку адбыўся й пікнік, даход зь якога папоўніў касу.

26-га травеня Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе адзначала сваё Парафіяльнае Сьвята. На сьвяткаваньне быў запрошаны а. Аляксандар Яноўскі з „Гайлэнд Парк", а таму была магчымасьць адслужыць поўную Літургію Архірэйскім чынам. Асаблівае зацікаўленьне прысутных на Багаслужбе прыцягвала нованабытая Працэсійная Ікона Божае Маці, якая ў часе працэсіі была абнесена навакола царквы.

Пасьля сьв. Літургіі й Малебна усе прысутныя былі запрошаны на традыцыйны абед у царкоўную залю, у часе якога быў прачытаны рэфэрат на тэму дня. На абедзе быў прысутны ўкраінскі сьвятар з суседняе парафіі прат. а. Федар, які палкімі словамі прывітаў удзельнікаў сьвяткаваньня.

Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў гэтым годзе адбылася ў Кліўленьдзе. У суботу 31-га жнівеня ўвечары адбыўся банкет, на якім прысутнічала давольная колькасьць асоб, якія прыехалі амаль з усіх беларускіх асяродкаў Амэрыкі й Канады.

У нядзелю першага верасьня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці была адпраўлена поўная Саборная Архірэйская Багаслужба. Суслужылі: Уладыка Андрэй, Уладыка Мікалай, прат. а. Карп з Дороты й пратадыякан Міхал. Хорам кіраваў бр. Кіслы. На зварот Уладыкі Андрэя на карысьць Кансысторыі было сабрана 158 даляраў і 70 цэнтаў.

Пасьля Багаслужбы працяг Сустрэчы адбываўся на Полацку ў новазбудаваным будане. Да прысутных прамаўлялі: Маёр гораду мр. Пэрк, кандыдат да Кангрэсу мр. Путы, Старшыня Рады БНР Жук Грышкевіч, Інжынер Гарошка, пісьменьнік Акула, др. Запруднік; Др. В. Кіпель прачытаў даклад на тэму „Беларусы ў Амэрыцы".



У нядзелю 8-га верасьня пасьля сьвятой Літургіі была адпраўлена Паніхіда ў 40-вы дзень сьмерці сьв. пам. Аляксандра Стагановіча. А потым быў ахрышчаны дарослыДанальд Рычардсан. Гэта ўжо другі выпадак хрышчэньня дарослых у нашай царкве.

У суботу 14-га верасьня Ўладыка Андрэй у асысьце пратадыякана Міхала з удзелам хору удзяліў таінства шлюбу маладым Юлі Дубаневіч іДанальду Рычардсану. У часе шлюбу ў царкве прысутнічалі ня толькі блізкія й далёкія родныя маладое й маладога, але й шмат знаёмых, а таму царква была перапоўнена. Абрад шлюбу адбываўся ў ангельскае мове.

6-га кастрычніка пасьля сьв. Літургіі, ў 3-ю гадавіну сьмерці сьв. памяці Архіепіскапа Сергія — Галавы БАПЦарквы, была адслужана Паніхіда за супакой душ Уладыкі Сергія і Ўладыкі Васіля. Вечная памяць!

## ПАРАФІЯ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ, НЬЮ ДЖЭРСІ

Сёлета Парафія вельмі ўрачыста абходзіла дзень свае Патронкі — Божай Маці Жыровіцкай. Урачыстасьці пачаліся ўжо ў суботу 18-га травеня, калі а. Аляксандар, кіраўнік Парафіі, адслужыў вячэрню й заутраню. У нядзелю Багаслужэньне ачолілі Вясокапраасьвячэнныя Мітрапаліт Андрэй і Архіяпіскап Мікалай, у суслужэньні а.а. пратаерэяў Васіля Кендыша, Карпа Стара й Кіраўніка Парафіі а. Аляксандра Яноўскага. Раніцою, перад Божаю Службаю, вітаў дастойных Уладыкаў старшыня Парафіяльнае Рады М. Войтанка, а вучні Беларускае Нядзельнае Школы падалі Ўладыкам кветкі. На пачатку Божае Службы Ўладыка Мітрапаліт узнагародзіў а. Аляксандра камілаўкай. Сьвятая Літургія закончылася Крыжным Ходам вакол Царкв. Прыгожае прынагоднае казаньне сказаў Уладыка Мітрапаліт. У чэсьць Уладыкаў быў зладжаны ў залі Царкоўна-Грамадзкага Цэнтру банкет. З прывітальнымі прамовамі выступалі прадстаўнікі сьвятарства, царкоўных, грамадзкіх і навуковых арганізацыяў. Прыемнай неспадзеўкай для прысутных быў прыезд напрыканцы банкету Архімандрыта Язэпа Строка з Саўт Рывэру; банкет закончыўся ў прыемнай братэрскай атмасфэры.

## НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА

Заняткі ў Беларускай Нядзельнай школе пачаліся сёлета 20-га верасьня. У школу прыбыло шмат вучняў, створана новая кляса. На сяньня маюцца тры клясы: старэйшая — вучні векам вышэй дванаццаці гадоў; сярэдняя — вучні ў веку ад васьмі да дванаццаці гадоў, і малодшая — дзеці ад пяці да васьмі гадоў. У школе навучаюць рэлігіі, беларусаведы, а таксама практыкуюць сьпевы й танцы. Для старэйшых вучняў будзе наладжана шэраг спэцыяльных лекцыяў. Навучаюць ў школе — айцец Аляксандар Яноўскі, В. Русак і жанчыны — А. Лук'янчык, А. Лысюк і А. Дубяга.

## ТАВАРЫСКІЯ ІМПРЭЗЫ

За летні й васеньні сэзон былі зладжаны тры імпрэзы: Парафіяльны Пікнік — 4-га жнівеня, Дзень Дажынак — 22-га верасьня й Бліны — 20-га кастрычніка. Усе імпрэзы, і асабліва Парафіяльны Пікнік, дзякуючы стараньням а. Аляксандра, прайшлі вельмі ўдала й прынесьлі прыбытак у царкоўную касу. Як заўсёды, да посьпеху такіх імпрэзаў шмат спрычыняюцца нашыя руплівыя гаспадыні.

З АНГЕЛЬШЧЫНЫ

## ЗЬЕЗД ВЕРНІКАЎ БАПЦАРКВЫ

Чарговы Зьезд Вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Англіі адбыўся 16-га сакавіка 1974 году. Зьезд адбыўся ў Царконай залі БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры. Пасьля сьв. Літургіі прат. а. Я. Абабурка і а. Я. Пякарскі ўзьнесьлі шчырыя малітвы прад Абразом Жыровіцкае Божае Маці.

Абрады Зьезду адчыніў Старшыня Рады БАПЦарквы Інжынер Кляйноў. На Старшыню быў выбраны Х. Кажаневіч, на Сакратара — М. Яськевіч, а ў ганаровыя сябры прэзыдыюму ўвайшлі айцы — Я. Абабурка й Я. Пякарскі й матулькі — Кацярына й Аляксандра. Справаздачу з дзейнасьці Рады за мінулыя гады здаў Я. Калбаса.

У склад нававыбранае Ўправы ўвайшлі: прат. Я. Абабурка — Старшыня, а. Я. Пякарскі — першы заступнік Старшыні, Х. Кажаневіч — другі заступнік Старшыні, Я. Калбаса — Сакратар, П. Шыркоўскі — заступнік Сакратара, У. Ганько — Скарбнік.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў МАНЧЭСТЭРЫ

Сёлетнія 56-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Беларуская Калёнія ў Манчэстэры адзначала ў нядзелю 31 сакавіка.

Пасьля Малебну, які адслужыў прат. а. Ян Абабурка, удзельнікі сабраліся на Акадэмію ў Царкоўную Залю.

Акадэмію адчыніў і прачытаў рэфэрат Старшыня Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі Х. Кажаневіч. Былі прачытаны прывітаньні ад Беларускіх арганізацыяў. А на заканчэньне афіцыйнае часткі Акадэміі прысутныя прасьпявалі Беларускі Нацыянальны Гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сьвяткаваньне закончылася пачастункам, які прыгатавалі нашы руплівыя жанчыны.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У БРАДФОРДЗЕ

Ужо ўвайшло ў традыцыю, што Тыдзень Паняволеных Народаў у Брадфордзе адбываецца кажны год. У гэтым годзе афіцыйнае адзначэньне тыдня адбылося ў нядзелю 7-га ліпеня. А гадзіне 2:15 у англіканскай Катэдры правілася Служба Божая, удзел у якой бралі нацыянальнасьці розных веравызнаньняў. Кажны духоўнік меў абмежаваны час да прамоваў — не даўжэй як 5 хвілін. Вельмі было прыемна бачыць нашага беларускага сьвятара прат. а. Я. Абабурка з сваім хорам і дэлегатамі ды чуць ў роднай мове Малебен за Беларускі і ўсе паняволеныя Народы. Пасьля прайшла маніфэстацыя па горадзе, і быў зложаны вянок няведамаму жаўнеру. У маніфэстацыі прыняло ўдзел каля 600 асоб, а ў тым ліку й Маёр гораду з сваімі працаўнікамі, палітыкамі й карэспандэнтамі ад прэсы.

**М. Яськевіч**

## МАЛЫЯ ПАРАФІІ БАПЦАРКВЫ

Айцец Ян Пякарскі паведамляе, што ў ягоных парафіях праца пашыраецца. Асабліва добра разьвіваецца Парафія ў Кэмбрыджы. На Божыя Службы прыходзяць, апрача нашых беларусаў, шмат вернікаў розных нацыянальнасьцяў, бо толькі адзін а. Ян рэгулярна даяжджае раз на месяц.



## МУДРАСЬЦЬ ЧАЛАВЕЧАГА АРГАНІЗМУ

Ведамы д-р Вольтар Каннон сказаў: „Калі добра ўнікнуць у структуру чалавечага арганізму і ў рэсурсы яго здароўя, то можна зьдзівіцца, чаму чалавек часта хварэе"?

Дактары ведаюць, што калі чалавек мае дастаткова сьвежага паветра, адпачынку, адпаведную ежу й не абцяжаны надмернымі думкамі, то 90, або й больш працэнтаў іхных пацыентаў будуць пачуваць сябе добра.

Часткі чалавечага цела маюць зарэзэрваваны фонд. Калі, напрыклад, чалавек хварэе на сухоты, частка тканак яго лёгкіх папсаваная, але іншыя здаровыя тканкі маюць у сабе сілу большую, як патрабуе чалавечы арганізм, а таму чалавек яшчэ праз некаторы час можа жыць.

Больш як чатыры пятыя часткі печані могуць быць выразаныя ў чалавека, але тая частка печані, што застанецца, можа выконваць усе належныя ёй функцыі. Хірург у часе апэрацыі можа выразаць і зьвязаць ад 30 да 40 крываносных жылаў, бо чалавек мае іх больш чым патрэбна. Кажны мае каля 26-і футаў кішок, зь якіх 3-4 футы могуць быць усунены з цела, і небясьпекі здароўю гэта ня спрычыніць.

Калі хірург выража адну хворую нырку, то другая здаровая павялічваецца й выконвае функцыю, што выконвалі дзьве ныркі.

Гэткім-жа спосабам, пасьля атаку сэрца, якое пераважна бывае вялічынёю з кулак, сэрца можа павялічыцца ў два, ці нават 4-ры разы. Гэта ёсьць геніяльная здольнасьць выраўнаньня, якое называецца „мудрасьцю чалавечага арганізму'.

Другім натуральным захаваньнем арганізму ёсьць супакой. Калі расьцягнуць спалучэньні рукі, то яна зробіцца чырвонаю й зацьвярдзелаю так, што чалавек ня будзе магчы рухаць рукою. А калі чалавек бывае ў моцна напружаным стане, які перавышае яго трываласьць, прырода кажа яму „спачні", і чалавек траціць сьведамасьць і робіцца няпрытомным.

Калі чалавек моцна параніць палец, і атрымаецца інфэкцыя, белыя крывяныя кружочкі прымушаны змагацца з бактэрыямі й гінуць, а іхныя адміраючыя целцы робяць гнойную перагародку паміж атакуючымі бактэрыямі, з аднаго боку, і свабоднай цыркуляцыяй крыві — з другога.

Амаль кажны выпадак захворваньня сьляпой кішкі (аппэндыцыту) пагражаў-бы сьмерцю, калі-б не вытваралася тая сьцяна, якая засьцерагае запаленьню да часу апэрацыі.

Божы плян даў такую аздараўляючую сілу для чалавечага арганізму і ніколі незгасальную мудрасьць, а таму людзі заўсёды сьцеражэныя супроць хваробаў і целавых пашкоджаньняў.

---

Парафія ў Бірмінгаме зьмяніла месца адбываньня Божых Службаў, пераносячы сядзібу Парафіі ў Вульвэргамптон, гэта толькі 10 міляў ад Бірмінгаму. Парафія паволі павялічваецца.

У Лонданскай Парафіі Божыя Службы адбываюцца нармальна паводля пляну. Айцец Ян Пякарскі 17 верасьня сёлета меў лёгкі атак сэрца; прабыўшы 17 дзён у шпіталі, паволі папраўляецца, але лекары выкрылі камяньні ў жаўцёвым мяшочку і, відаць, будзе змушаны паддацца апэрацыі. Мы будзем маліцца й прасіць ласкаў і апекі Божае пры пакананьні гэтых хваробаў.

**Кансысторыя БАПЦ**

# ПАРАФІЯ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

## Прыгожая дзейнасьць Сястрыцтва

У гэтым годзе вялікую й ахвярную працу выканала Сястрыцтва Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрку. З ладжаных імпрэзаў і зборак ахвяраў сярод сваіх сяброўак атрымалася паважная сума грошай, за якую закуплены наступныя патрэбныя рэчы:

1. Паложаны дабраякасны й прыгожы дыван у алтары й дарожка ў царкве;

2. Пазалочаны малы напрастольны крыж, кубачак і сподачак для ахвярніка;

3. Куплены прыбор на асьвячаньне хлябоў.

4. Куплены выносны падсьвечнік і чорнае сьвятарскае аблачэньне.

Як кіраўнік Парафіі, выказваю сваё прызнаньне й шчырую падзяку дарагім Сёстрам за зложаныя ахвяры й выкананыя працы для нашага Сабору.

**Прат. Васіль Кендыш**

---

Як падае часапіс „Вісник" — № 19 з 1974 г., — Епархіяльная Ўправа ў Вроцлаве (Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы) загадала ўсім падлягаючым сьвятаром адпраўляць Багаслужбу ў польскай мове. Як ведама, да гэтага часу Багаслужбы адпраўляліся старацаркоўна-славянскаю моваю. Ведама таксама, што палякоў у праваслаўных цэрквах няма.

**Атэны (РНС).** Дванаццаць грэцкіх праваслаўных Епіскапаў новым грэцкім царкоўным кіраўніцтвам пазбаўлены сваіх Катэдраў, і таму зьвярнуліся да Усяленскага Патрыярха Дымітрыя з просьбаю заступіцца за іх. Пазбаўлены Епіскапы Катэдраў за тое, што яны былі вызначаны грэцкім рэвалюцыйным урадам за часоў кіравецтва царквою Архіепіскапа Героніма. А Геронім, ранейшы Першагерарх Царквы, таксама пазбаўлены Герархічнага становішча.

Усе высьвячаныя грэцкія Епіскапы пасьля 1967 году цяпер таксама прызнаны неканонічнымі, бо яны былі пастаўлены з ініцыятывы грэцкага ўраду, а не Герархаў.



У Белавежскай пушчы